# АНДРЭЙ ШАШАЛЕВІЧ

Паводле дадзеных з асабовай справы № 267 (захоўваецца ў архіўным аддзеле КДБ РБ), Андрэй Антонавіч Шашалевіч (сапраўднае прозвішча беларускага пісьменніка, які выступаў у друку 1920-х — 1930-х г. пад псеўданімам Андрэй Мрый, або Мрый А.) нарадзіўся ў 1893 г. у вёсцы Доўгавічы Чэрыкаўскага раёна у сям'і валаснога пісара. Андрэю было дзевяць гадоў, калі мнагадзетная сям'я засталася без бацькі. Пяцярых дзяцей маці гадавала адна. Найбольш падрабязныя звесткі пра дзіцячыя гады пісьменніка маюцца ў лісце ягонай дачкі Аксаны Андрэеўны да паэта Сяргея Грахоўскага (датаваны 11 лістапада 1987 г.), дзе яна пераказвае пачутае ад сваёй цёткі Аксенні, што замяніла Аксане маці:

*«Калі Антон Дзяменцьевіч* (А.Д.Шашалевіч — бацька А.Мрыя. — ***Л. М***. ) *паміраў, ён <...> казаў жонцы, каб яна дзяцей не вучыла: няхай гаспадараць на зямлі, сялянствуюць. Аднак жонка яго, Еўфрасіння Фамінічна, зрабіла наадварот... Яна вырашыла вывучыць дзяцей і для гэтага, прадаўшы дом, выправілася ў Магілёў <...> «даваць» абеды і гэтым зарабляць на вучобу дзяцей. Аднак нічога з гэтага не атрымалася. Недзе праз год давялося вярнуцца. Не было, відаць, у яе дзелавой хваткі...*

*Хлопчыкаў маці аддала вучыцца спачатку ў духоўнае вучылішча* (верагодней за ўсё, у 1900 г. — ***Л. М***.), *потым — у семінарыю. Кажуць, што бацька нізашто не хацеў туды ісці, але маці настаяла. Вучыўся ён бліскуча, заўсёды быў першым вучнем.*

*Усе дзеці любілі музыку. Бацька неяк навучыўся іграць на віяланчэлі, а дзядзька Вася* (Васіль Шашалевіч. — ***Л. М***.) — *на скрыпцы... Ад мамы і ад сястры чула, што ў дзядзькі Васі аказалася скрыпка Страдывары... Скрыпку нібы падарыла яму [мясцовая] памешчыца <...>* (пасля смерці свайго сына, блізкага сябра Васіля Шашалевіча. — ***Л. М***.) *у час рэвалюцыі...”*[*] (найверагодней, не пазней за 1914 г. — ***Л. М***.).

Далейшы лёс А.Мрыя высвятляецца з пратаколу допытаў у НКВД ад 15 чэрвеня 1940 г. (пасля другога арышту):

*«С 1904 по 1914 гг. я учился в Могилевской духовной семинарии. После окончания был направлен в Киевскую академию, откуда в 1916 году с третьего курса <...> был мобилизован в Киевскую школу прапорщиков. В школе прапорщиков я про[учился]*

---

[*] Цыт. па: Полымя. 1988. № 8. С. 217—218.

*четыре месяца. Затем [меня] направ[или] на Германский фронт в 94-й енисейский полк. Служил в чине прапорщика.*

*В 1918 году с царской армии демобилизова[лся] и в том же году с августа месяца добровольно вступил в Красную Армию, был зав[едующим] Чериковского военкомата, а затем перешел в первый Могилевский резервный полк и в начале 1919 г. <…> направлен под Ново-Хоперск. Затем заболел тифом…»*

Больш падрабязна пра сваю хваробу А.Мрый успамінаў «па свежых слядах» — на допытах у НКВД 26—27 лютага 1934 г.; допыт працягваўся без перапынку двое сутак (так званы канвеер):

*«В это время я был командиром 345 роты 14-го запасного полка Красной Армии в Дорогобуже. Два раза рота была сформирована и два раза целиком погибала от эпидемии дизентерии и тифа…»*[†]

Пасля выздараўлення А.Мрыя адправілі на Заходні фронт. Адтуль праз год ён дэмабілізаваўся і вярнуўся ў родныя мясціны (1921). Працаваў настаўнікам у Краснапольскай школе 2-й ступені — выкладаў гісторыю і французскую мову. Разам з А.Мрыем у школе настаўнічалі яго малодшы брат Васіль і сёстры Аксіння і Настасся. Апошняя неўзабаве стала жонкай А.Грубэ[‡], будучага народнага мастака Беларусі. У 1923 г. малады гісторык разам з братам і шваграм арганізавалі першы ў раёне народны тэатр. Як адбывалася прэм’ера, А.Мрый напісаў праз год у апавяданні «Цар Максіміліян» у вёсцы»[§] («успаміны пра тэатр» таксама сустрэнем і ў «краснапольскіх замалёўках» аўтара (1924), і ў рамане «Запіскі Самсона Самасуя»[**]): «Квіткоў [на спектакль] было 250, а напёрлася людзей больш за 300, ды і новыя <…> лезлі на пралом…"

У напісаным у тым жа годзе "антыкулацкім "Петраку" паведаміць А.Мрый і як з'явіўся ў тэатра свой будынак… Адначасова Шашалевічы пачынаюць выпускаць і літаграфаваны часопіс «Пралеска», дзе Андрэй змяшчае свае першыя рэчы. Больш дакладна лёс гэтых публікацый А.Мрыя высвятляецца з ужо ўзгаданых «канвеерных» допытаў ад 26—27 лютага 1934 г.:

*«Написал в газету «Савецкая Беларусь» ряд очерков* (у канцы 1923 г.; невялікія, на паўбачыны-бачыну, «краснапольскія замалёўкі» цяжка назваць «очерками»; хутчэй за ўсё маюцца на ўвазе апавяданні

---

[†] З асабовай справы А.Шашалевіча.

[‡] А.Грубэ, магчыма, быў першы, хто яшчэ пры жыцці «вождя мирового пролетариата» зрабіў з белай гліны яго дванаццаціпудовую статую.

[§] Мрый А. Творы. Мн., 1993.

[**] Узвышша. 1929. № 3, 4, 6.

«Пятрок»[††], «Прафесар акультных навук»[‡‡], «На кірмашы»[§§] і іншыя раннія рэчы А.Мрыя. — ***Л. М***.) *с еле уловимым налетом сатиры на советский строй*[***]*… Стал заметным корреспондентом и писателем* (адносна "заметнага" А.Мрый трохі перабольшваў: заметным ён стане праз год, калі пасля пераезду ў Мінск яго пачне друкаваць "Узвышша"[†††]. — ***Л. М***.). *[Однако] <…> вследствие столкновения с зав[едующим областного] о[тдела] н[ародного] о[бразования], я оставил Краснопольскую школу и поехал в Минск* (у жніўні 1926 г. — ***Л. М***.). *В Минске я встретился с писателем З.Бядулей, всё время протежировавшим мне, считавшим меня талантливым писателем… Он рекомендовал меня в качестве сотрудника в краеведческий журнал "Наш край" и инструктором при ЦБ краеведения* (другім інструктарам быў Кандрат Крапіва. — ***Л. М***.). *В краеведческой работе я близко сталкивался с профессором П.Бузуком, а в литературной — с профессором М.Пиотуховичем…*”

Апошні ў пачатку 1930-х г. стане адным з "галоўных прапагандыстаў" "Запісак Самсона Самасуя" сярод студэнцтва.

У 1927 г. А.Мрый пачаў актыўна друкавацца ва "Узвышшы". У наступным годзе літаратурны дадатак да газеты "Беларуская вёска" — не менш папулярны тады "Чырвоны сейбіт", які таксама рэдагаваў галоўны ўзвышэнец Кузьма Чорны, змяшчае шэраг апавяданняў пісьменніка. Справа, магчыма, складалася так: што не праскоквала праз пільнае вока ў дадатку, друкавалася ва "Узвышшы", і наадварот…

На ўзвышэнскіх творах А.Мрыя спынімся асобна. Галоўны герой першага надрукаванага ў часопісе апавядання пісьменніка "Няпросты чалавек"[‡‡‡], селянін Піліп, з нейкіх Праскурак, з настальгіяй расказвае пра свае гарадскія універсітэты і вяртанне

---

[††] Савецкая Беларусь. 1924. 5 лют.
[‡‡] Мрый А. Творы. Мн., 1993.
[§§] Савецкая Беларусь. 1926. 10 студз.
[***] Наконт «еле уловимым налетом сатиры на советский строй» пісьменнік выказаўся даволі дакладна. Сапраўды, што антысавецкага можна знайсці ў паўлікамарозаўскім "Петраку", дзе галоўны герой, сын "добрага гаспадара" (чытай — кулака) камсамолец Пятрок, "калі захапілі жыдоўскую сінагогу на нардом <…>, скакаў і нават на адместку ўсякія крэндзелі вырабляў". Не згубіўся Паўлік — прабачце, Пятрок — і ў "новы час": прамяняў бацьку разам з яго гаспадаркай на партшколу. "Ён хлапец кемкі", падвёў вынік мясцовы настаўнік, таксама з "перадавых". І, канечне ж, “сумна стала Грышку (бацьку Петрака. — **Л. М.),** сорамна, што выгнаў роднага сына…” (пасля чарговых яго "крэндзеляў". — ***Л. М*.).**
Напісаная ў тым жа годзе рэч "Прафесар акультных навук" напамінае нам, што кашпіроўскія і іншыя "чумакі" рознакаляровых магіяў з’явіліся задоўга да “гласности”. Але, у адрозненне ад цяперашняга часу, у фінале апавядання прафесара-жуліка доблеснае ГПУ ўсё ж арыштавала.
Цяжка адшукаць антысаветчыну і ў амаль дакументальным рэпартажы з нэпманаўскага (нібы з сённяшняга) кірмашу ("На кірмашы"). Напрошваецца выснова: нават калі пісаць проста, як было, а галоўнае, праўдзіва — гэта і ёсць антысаветчына.
[†††] Узвышша. 1927. № 3.
[‡‡‡] Тамсама.

пасля гэтага дамоў. У наступным апавяданні "Камандзір"[§§§] галоўны "герой" — чырвоны камандзір, а дакладней забойца, гвалтаўнік, часамі проста звер, амаль весела апавядае пра свае злачынствы і як яго па-бальшавіцку сурова пакаралі: адправілі вучыцца... Некаторыя даследчыкі знаходзілі ў "Камандзіры" "камічнасць сюжэту і сітуацый" і лічылі, што "галоўны герой гэтых твораў — Смех". Цяжка згадзіцца з гэтым вывадам. Здаецца, наадварот, праз невялікае апавяданне аўтар паказаў трагедыю краіны ды што нарабілі тыя, каго "из грязи в князи» паднялі... Іншага плана апавяданне "Гармонія ў ружовым"[****], пасля прачытання якога напрошваецца думка: магчыма, амерыканцы мелі рацыю, калі яшчэ колькі гадоў таму рэкамендавалі маладым да вяселля наведваць урача... Пасля выходзілі калгасная агітка "Калектыў Яўмена"[††††], гісторыя з'яўлення на сяле першага радыёпрыёмніка "Алё, Алёна!.." [‡‡‡‡] і антырэлігійнае "Рабін"[§§§§] — аб пралюбадзеі рабіне-хамелеоне...

Усе ўзвышэнскія рэчы[*****] А.Мрыя даволі моцна інфармацыйна насычаны. Праз падзеі добра высвечваецца сам час. Апавяданні сумяшчаюць, здавалася б, несумяшчальнае, супярэчлівае: праўдзівасць, амаль дакументальнасць — і нерэальнасць, незвычайнасць, месцамі нават фантастычнасць падзей...

Толькі праз два гады пасля з'яўлення ў часопісе «Узвышша» апавяданняў пісьменніка, 26 мая 1929 г. на чарговым гадавым сходзе літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша» А.Мрый, як раней і ягоны малодшы брат драматург Васіль (Шашалевіч), прымаецца ў сябры згуртавання, адначасна з «богам дадзеным талентам» (выраз К.Чорнага), маладым празаікам Лукашом Калюгам, паэтам Уладзімірам Жылкам і яго найбліжэйшым сябрам крытыкам Феліксам Купцэвічам.

У тым жа 1929 г. «Узвышша» пачынае друкаваць «вулічную лаянку» і «злосны пасквіль на нашу савецкую рэчаіснасць» — раман А.Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя»[†††††], аднаго з «найбольш характэрных выяўнікаў буржуазнай плыні ў беларускай літаратуры» (М.Аляхновіч), які быў напісаны "под влиянием бесед с профессором

---

[§§§] Узвышша. 1927. № 5.
[****] Узвышша. 1927. № 6.
[††††] Чырвоны сейбіт. 1928. № 3.
[‡‡‡‡] Чырвоны сейбіт. 1927. № 12.
[§§§§] Узвышша. 1929. № 2.
[*****] Апавяданне А.Мрыя «Моладзь» (Чырвоны сейбіт. 1927. № 4—5) аўтарам гэтай кнігі не знойдзена.
[†††††] З ліста А.Рухінай да С.Грахоўскага (датаваны 13 лютага 1988 г.): «Мы очень рады, что такой замечательный мастер, как Василь Быков, будет переводить роман. Это то, о чем можно только мечтать...»
З пратакола допытаў А.Мрыя ад 26—27.2.1934 г.: *«Для меня было ясно, что это антисоветское произведение, мобилизующее общественность против пролетарского строя».*

Пиотуховичем на литературные темы…"[‡‡‡‡‡] Падтрымаў М.Аляхновіча, а не свайго "хросніка" і калегу па сатыры і працы ў АН, а таксама адданага прыхільніка сказа Кандрат Крапіва: "У <…> "Запісках Самсона Самасуя" <…> аўтар <…> высмейвае працу савецкіх установ і арганізацый цалкам і гэтым у пэўнай меры салідарызуецца з тымі паклёпамі, якія ўзводзяць на савецкую ўладу ворагі дыктатуры пралетарыяту"[§§§§§].

Тут трэба зноў вярнуцца да допытаў А.Мрыя ад 26—27 лютага 1934 г.:

*"В 1931-м происходила «чистка» А[кадемии] Н[аук]. Комиссия констатировала, что я в краеведении проводил к[онтр]-р[еволюционные] установки оппортунистического руководства Академии, был связан с нацдемами и подлежу снятию с работы* (тады ж А.Мрый знішчыць працяг "Запісак…". — ***Л. М.*)**, *но принимая во внимание мою честную советскую работу в Институте языка, <…> комиссия ограничилась выговором и оставила меня на работе в Академии. Проходил "чистку" и профессор Бузук, ставший директором института языка. "Чистка" здорово потрепала ему нервы…"*[******]

У ЦБ краязнаўства А.Мрый працаваў да 1933 г. Адначасова працягваў супрацоўнічаць у газетах і часопісах (ужо толькі як перакладчык), уступіў у БелАПП.

З пачатку 1933 г. А.Мрый перайшоў на работу ў газету «Звязда» на пасаду стыльрэдактара. Па-ранейшаму заставаўся беспартыйным…

У ноч з 21 на 22 лютага 1934 г. у Мінску па адрасе: Стаўпецкі завулак, дом 6., к. 1 стыльрэдактар газеты «Звязда» А.Мрый быў арыштаваны (па справе краснапольскіх настаўнікаў). Пры арышце прысутнічалі жонка Зыкава Соф'я Андрэеўна і дзеці: Юрка — пяці гадоў і Артур — трох гадоў.

*ПОСТАНОВЛЕНИЕ*
*о предъявлении обвинения и избрании меры пресечения.*
*22 февраля 1934 г. Минск.*

*Шашалевич Андрей Антонович достаточно изобличается в том, что является активным членом существующей в БССР контрреволюционной фашистской организации, ставящей своей целью свержение Советской власти вооруженным путем и*

---

[‡‡‡‡‡] З асабістага архіва Л.Маракова.
[§§§§§] Узвышша. 1931. № 1. С.124.
[******] З асабовай справы А.Шашалевіча.

*установление фашистской диктатуры. [Шашалевич А.А.] проводил подрывную работу в области народного образования, руководил низовыми звеньями к-р организации на периферии, давал [задание] членам организации вести шпионскую работу…*

*Привлечь [Шашалевича А.А.] в качестве обвиняемого по [статьям] 64, 68, 72, 76.*

*Содержание под стражей при Комендатуре по первой категории*[††††††].

З ліста А.Мрыя да Сталіна:

*«Когда меня арестовали в 1934 году в Минске, я вначале думал, что причина ареста — этот злосчастный роман. Однако во время следствия мне ни слова не сказали о романе, о моей литературной работе, хотя при обыске была захвачена вся моя литературная продукция. Следствие потребовало от меня признания в принадлежности к национал-фашистской организации… [Мне] <…> прямо сказали <…>, что в случае непризнания мою семью ожидает самая печальная участь…"*[‡‡‡‡‡‡]

26 сакавіка 1934 г. «тройка» засудзіла А.Мрыя да зняволення «в исправтрудлагерь сроком на пять лет», і ён быў этапаваны ў Карагандзінскі «ИТЛ» (канцлагер). Але пасля падачы А.Мрыем апеляцыі на імя Генпракурора СССР 21 лістапада 1934 г. тэрмін пазбаўлення волі пісьменніку быў зменены: тры гады высылкі ў Волагду, потым — у Вельск…

Звернемся да пратакола допытаў А.Мрыя ад 15 чэрвеня 1940 г.:

*«В Вельске я работал бухгалтером Леспромхоза до декабря 1937 г. В начале 1938 г. приехал в Мурманск, где получил работу в Терибовском рыбкоопе. С апреля 1939 г. я перешел на работу <…> преподавателя литературы старших классов, где и работал до дня настоящего ареста.*

***Вопрос:** В период вашей службы в Красной Армии на каких фронтах вы бывали?*

***Ответ**: <…> на Деникинском и Западном фронтах.*

***Вопрос**: Чем занимался ваш отец и какое хозяйство имел при царском строе?*

***Ответ**: Мой отец служил <…> почтовым служащим, своего хозяйства не имел.*

---

[††††††] З асабовай справы А.Шашалевіча.
[‡‡‡‡‡‡] З асабовай справы А.Шашалевіча.

***Вопрос****: За что в 1939 г. вы были осуждены?* (А.Мрый быў асуджаны ў другі раз 13 чэрвеня 1940 г. — **Л.М.**)

***Ответ****: <…> Мне было предъявлено обвинение по ст. 58-2 УК, как участнику контрреволюционной организации.*

***Вопрос****: Вы давали показания о своей принадлежности к к-р. организации?*

***Ответ****: Да, <…> давал, но в последующем от [них] отказался…*

***Вопрос****: Почему <…> отказались?*

***Ответ****: Потому, что <…> допустил малодушие, трусость и страх за свою семью. Следствие требовало от меня дать показания, и я начал их [придумывать].*

***Вопрос****: Да, но ведь тогда вас изобличали в к-р. рев. деятельности другие участники организации. Почему вы говорите, что ваши показания были [придуманы]?*

***Ответ****: Потому, что в действительности не было того, что я [говорил].*

***Вопрос****: В период вашей литературной деятельности вы примыкали к каким-нибудь группировкам или течениям?*

***Ответ****: Да, <…> к литературному объединению «Узвышша», в переводе на русский язык «Взгорье»…*

***Вопрос****: В чем было основное противоречие вашего литературного течения с обстановкой современного Советского строя?*

***Ответ****: Основные противоречия <…> — отрыв от производственной жизни страны, на первый план выставляли не коллектив, а личность человека, увлекались национальным вопросом, игнорировали классовую борьбу…*

***Вопрос****: В этот период вы имели свои литературные труды?*

***Ответ****: Да. Роман «Записки Самсона Самосуя», до сорока рассказов, работа «О газетном языке Ленина» <…>, роман «Май»…*

***Вопрос****: Если вы шли в разрыве с программой литературного объединения, зачем же вы вступили в него?*

***Ответ****: <…> объединение было серьезное и сильное по учебе, и его программа не расходилась с моими убеждениями.*

***Вопрос****: Значит, вы полностью поддерживали <…> лит.объединение «Узвышша»?*

***Ответ****: Вошел я в эту организацию, будучи согласен с её программой…*

***Вопрос**: Следовательно, ваши убеждения и взгляды были направлены против существующего строя?*

***Ответ**: Программа «Узвышша» казалась мне не противоречащей Советской идеологии… В 1930 г. Бабареко, Пуща, Дубовка, Адамович* (лідэры "Узвышша". — ***Л. М***.) *были арестованы. Организация <…> ликвидировалась…* (у 1931 г. — ***Л. М***.)

***Вопрос**: Ваш брат Василий входил в организацию «Узвышша»?*

***Ответ**: Да…»*

*«<u>Дело № 1141</u>*

*По обвинению Шашалевича А.А. по ст.58-10, 58-11 УК РСФСР.*

*НКВД*

*Управление по Мурманской области.*

*ПОСТАНОВЛЕНИЕ.*

*<u>г. Мурманск. 2 июня 1940 г.</u>*

*Шашалевич Андрей Антонович, 1893 г. р., уроженец БССР, Чериковского района, деревни Долговичи, белорус, б/п, образование н/высшее, работал в Кольской СШ бухгалтером и преподавателем, проживал: поселок Кола, проспект Советский д. 31, кв.1.*

*Шашалевич А. А. — в прошлом офицер царской армии. В 1934 г. судим тройкой НКВД БССР за распространение к-р литературы, осужден к высылке на Север. В 1933 г. в Краснопольском районе БССР была вскрыта и ликвидирована к-р националистическая учительская организация. По показаниям членов <…> организации Шашалевич проходит как польский разведчик <…>, но сам Шашалевич избежал ареста, скрывшись из Краснопольского района. Шашалевич А.А. подозревается в шпионской деятельности против СССР».*

*«<u>Протокол обыска:</u>*

*изъяты:*

*паспорт на Шашалевича А.А.;*

*профсоюзный билет;*

*справка взамен воинского билета;*

*справка о судимости;*

*личная переписка — одна пачка.*

*<u>Протокол допроса.</u>*

*<…> начат 3 июня 1940 г. в 10 часов.*

***Вопрос**: Откуда и когда вы прибыли в поселок Колу?*

***Ответ**: Я прибыл в Колу в марте 1939 г. из станции Териберка Мурманской области.*

***Вопрос**: В Краснопольском районе вы работали?*

***Ответ**: <…> работал с 1921 по 1926 годы учителем второй ступени.*

***Вопрос**: Где и в должности кого вы работали с 1926 по 1934 годы?*

***Ответ**: <…> работал научным сотрудником в АН БССР в г. Минске и в газете «Звязда» стиль-редактором.*

***Вопрос**: Расскажите более подробно причины вашего ареста и высылки в 1934 г.*

***Ответ**: В 1934 г. Краснопольским райотделом ОГПУ было арестовано 40 учителей, в том числе <…> и я. Мне было предъявлено обвинение как участнику к-р учительской организации… По окончании следствия, через месяц тройкой ГПУ БССР я был осужден на пять лет ИТЛ, но подал апелляцию прокурору СССР и после пересмотра был освобожден из ИТЛ и выслан на 3 года в г. Вологду …*

***Вопрос**: <…> вы имели знакомых в АН БССР?*

***Ответ**: По работе в АН я был знаком с писателями Крапивой, Глебко, Лыньковым, профессором Бузуком.*

<u>*Протокол допроса от 5 июня 1940 г.*</u>

***Вопрос**: Когда и откуда вы прибыли на жительство в Мурманскую область?*

***Ответ**: В Мурманскую область я прибыл 2 февраля 1938 г. из г. Вельска Вологодской области.*

***Вопрос**: Чем вы там занимались?*

***Ответ**: В г. Вельске я находился с конца 1934 г. по начало 1938 г. Работал бухгалтером леспромхоза.*

***Вопрос**: Назовите своих близких знакомых по Мурманской области.*

***Ответ**: Близких знакомых в Мурманской области я не имел.*

***Вопрос**: Кто из ваших знакомых или родственников проживает за границей и где?*

***Ответ**: Родственников и знакомых за границей нет.*

***Вопрос**: Кто из ваших родственников репрессирован?*

***Ответ**: Мой брат Шашалевич Василий Анатольевич — писатель, драматург. В 1930 г. арестовывался органами ОГПУ, обвинялся по 58 статье, через семь месяцев был освобожден. Второй раз мой брат был арестован органами НКВД в г. Минске по делу педагогов и журналистов, осужден и в настоящее время отбывает*

*срок наказания <…> в Сибири. Все сведения о нем я получал через его жену, которая мне писала письма.*

***Вопрос**: Когда вы последний раз имели встречу с братом Василием?*

***Ответ**: С 1926 по 1934 гг. я проживал в г. Минске, где жил и брат Василий. В 1934 г. я был арестован и больше <…> с ним не встречался.*

***Вопрос**: А переписку с ним вели?*

***Ответ**: Иногда переписывался, но не часто.*

***Вопрос**: Назовите своих близких родственников и знакомых, проживающих в г. Минске.*

***Ответ**: <…> в Минске проживает только жена моего брата — Вера Семеновна Пушкевич. Близких знакомых в Минске я не имел.*

13 чэрвеня 1940 г. А.Мрыя асудзілі на 5 гадоў пазбаўлення волі.

1 сакавіка 1943 г. медыцынскай камісіяй пісьменнік быў прызнаны інвалідам і адпраўлены паміраць дамоў, але на Радзіму А.Мрый не вярнуўся…

З ліста А.Рухінай да Сяргея Грахоўскага (датаваны 5 снежня 1988 г.):

*"Не так давно мы узнали <…>, что отец наш был убит уголовниками, выпущенными Берия[1], на одной из станций, когда ехал к нам… Об этом <…> рассказал Борис Стратович, наш двоюродный брат (самого его <…> давно нет в живых). Борис работал в НКВД и читал личные дела братьев. Вот судьба! Оба убиты…"*

Сапраўды жахлівы лёс: адзін брат — следчы, энкавэдыст, другі — падследны, вязень…

*<u>30 мая 1956 года.</u>*

*В Президиум Верховного Суда СССР гражданки Зыковой Софии Андреевны, проживающей в д. Дербичи Гомельской области Буда-Кошелевского района.*

*Заявление.*

*Прошу Президиум Верховного Суда СССР рассмотреть дело моего мужа Шашалевича Андрея на предмет его посмертной реабилитации и сообщить мне о результатах пересмотра.*

*Шашалевич Андрей Васильевич 1893 года рождения проживал в г. Минске, работал стильредактором в газете «Звязда». Я, Зыкова София Андреевна, с тремя малыми детьми (в возрасте от одного до пяти лет) [находилась] на его иждивении.*

*23 февраля 1934 г. Шашалевич Андрей Васильевич был арестован органами Минского НКВД. В марте того же 1934 г. судим закрытым судом НКВД и осужден на пять лет заключения в концлагерь по обвинению в участии в к-р организации.*

*При последнем свидании со мной перед отправкой в концлагерь в Караганду Шашалевич Андрей Васильевич отдал мне свое заявление на имя заместителя председателя (или прокурора — точно не помню) Верховного Суда СССР с просьбой пересмотреть его дело.*

*В заявлении <…> он писал, что ни в чем из предъявленных ему обвинений не виноват, никаких членов к-р организаций не знал, ни в каких к-р заданиях или заговорах не участвовал, но принял на себя вину, хорошо не понимая какую, по принуждению следователей, опрашивавших его во время следствия в феврале-марте в 1934 г. в Минском НКВД.*

*Проводивши мужа в концлагерь, я отвезла его заявление в Москву и лично передала по указанному адресу заместителю председателя Верховного Суда СССР в июне 1934 г. Копию заявления отдала в Минске в Управление НКВД.*

*Сама я со старшим сыном Юрием, пяти лет, уехала в Ленинград и поступила на педагогическую работу: работала воспитательницей Сестрорецкого детского санатория, затем учительницей 19 школы Московского района. Двое младших детей находились у моих близких родственников (по обоюдному согласию дети остались у них навсегда).*

*В ноябре 1934 г. мой муж Шашалевич А.А. был освобожден органами НКВД из концлагеря Караганды и отправлен на вольное поселение в г. Вельск Вологодской области, под надзор местных органов НКВД на три года с зачетом отбытого им в заключении времени.*

*В г. Вельске Шашалевич А.А. работал сначала счетоводом, затем (с 1935 по 1937 гг.) бухгалтером леспромхоза. После окончания срока наказания Шашалевич А.А. еще некоторое время [находился] на прежнем месте в Вельском леспромхозе, но новый директор, учитывая его «политическое прошлое», снял его с работы.*

*Шашалевич А.А. приехал на две недели ко мне в Ленинград, но там не смог прописаться и, следовательно, получить работу.*

*В январе 1938 г. Шашалевич А.А. уехал в Мурманск. <…> Работал в поселке Териберка по бухгалтерии на рыбных промыслах, потом в городском поселке Кола бухгалтером. Осенью 1938 г. я с*

*сыном приехала из Ленинграда <…> и стала работать в Кольской средней школе учительницей, жила с мужем и с сыном Юрием.*

*В декабре 1939 г. у нас родилась дочь Наташа. В июне 1940 г. [муж] был вторично арестован органами Управления Мурманского НКВД, судим закрытым судом НКВД* (13 жніўня 1940 г. — ***Л. М***.) *и <…> вторично осужден на пять лет заключения в концлагере.*

*Шашалевичу опять было предъявлено обвинение в участии в к-р организации, и из Мурманска он был выслан в концлагерь «Вичка» Медвежьегорска в августе 1940 г.*

*Из концлагеря он написал мне, что в Мурманске ему предъявили обвинение в участии в к-р организации. Обвинения были предъявлены на основании сведений, полученных в Мурманске из Минска. В Минске в течение 1935—1937 гг. были осуждены лица, знакомые с ним или знавшие его по службе — Казак*[§§§§§§] *и Журавский*[*******]*. Они показали, что «Шашалевич А.А. участвовал в к-р организации». Об этом они слышали в Минске, узнав, что Шашалевич был осужден. Показания ими были даны в то время, когда Шашалевич уже отбывал наказание за эту выдуманную следователем вину. На основании этих сведений Мурманское управление НКВД вторично осудило Шашалевича А.А.*

*В октябре 1940 г. Мурманское управление НКВД запретило мне жить в Мурманской области (в полосе пограничной зоны) и я с малолетним сыном и грудным ребенком — дочерью была вынуждена оставить работу и уехать. Я поселилась и стала работать в школе Клинцовского района Брянской области.*

*Когда началась Великая Отечественная война, я потеряла связь с мужем, т. к. не успела эвакуироваться и очутилась на оккупированной территории с детьми в очень бедственном положении. Жила я в это время в селе Павличи Брянской области Клинцовского района.*

*Связь с моим мужем поддерживала его сестра, Шашалевич Ксения Антоновна, которая эвакуировалась из города Петрозаводска в Ивановскую обл. Кинешмский район, село Решма. От Ксении Антоновны после освобождения нашей территории я узнала следующее: Шашалевич Андрей Антонович в 1941 г. был эвакуирован с лагерем из Медвежьегорска сначала в Архангельскую область, затем в Коми АССР в Железнодорожный р-н. Он писал сестре, что 1 марта комиссия определила ему первую группу инвалидности* (пасля

[§§§§§§] Далейшы лёс аўтару невядомы.
[*******] Далейшы лёс аўтару невядомы.

перанесенага туберкулёзу. — ***Л. М***.) *и он назначен на освобождение, но домой не отправлен по причине слабости здоровья, хоть и хотел приехать к семье. В октябре 1943 года письмо, направленное ему сестрой, вернулось с пометкой: «Шашалевич А.А. выбыл в Кинешму 25 сентября 1943 г.». Но в Кинешму Шашалевич А.А. не прибыл. Очевидно, он умер где-то в пути или в лагере в Коми АССР. Точное название лагеря, где Шашалевич был последнее время, мне неизвестно.*

*Я прошу рассмотреть его дело, установить его виновность, сообщить мне о результатах, а также о месте его смерти, если это можно установить.*

*В настоящее время я проживаю и работаю учительницей в дер. Дербичи Гомельской области. На моем иждивении дочь Наталья Андреевна Шашалевич 1939 г. рождения, ученица 9-го класса СШ и сын Юрий — 1929 г. р. оконч. СШ в 1949 г., учился в институте, но по болезненному состоянию был вынужден оставить институт…*

*С.Зыкова*[†††††††]*».*

Рэабілітавалі А.Мрыя 6 студзеня 1961 г. Але рэабілітацыя была толькі на паперы. Пасля смерці Сталіна, калі пачалі ўжо выходзіць (хоць нярэдка і ў знявечаным цэнзурай выглядзе) кнігі расстраляных або замучаных у канцлагерах М.Гарэцкага, У.Дубоўкі, М.Чарота, Ц.Гартнага, А.Дудара, В.Маракова, І.Харыка, П.Галавача, У.Хадыкі, Т.Кляшторнага, М.Зарэцкага, Ю.Таўбіна і некаторых іншых рэпрэсаваных, імя А.Мрыя (як і імёны большасці другіх «узвышэнцаў») працягвала заставацца ў нябыце. Толькі праз трыццаць гадоў пасля рэабілітацыі выйшла ягоная першая кніга, якраз папярэдні стагоддзя з дня нараджэння. Такой непавагі дзяржавы да сваіх таленавітых сыноў, здаецца, яшчэ не ведала гісторыя літаратуры…

---

[1] **БЕРЫЯ Лаўрэнцій Паўлавіч** [17(29).3.1899, с. Мерхеулі, цяпер Сухумскі р-н — 23.12.1953], у 1938—45 як кіраўнік НКВД СССР удзельнічаў у правядзенні сталінскіх рэпрэсій. Расстраляны.



---

[†††††††] З асабовай справы А.Шашалевіча.